# ДЗЯННІЦА

Вестка Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

*Асобны № каштуя усюды 35 кап.*

№ 6

**ВАРУНКІ ПЕРЭДПЛАТЫ:**

| | На 12 мес. | На 9 мес. | На 6 мес. | На 4 мес. | На 3 мес. | На 2 мес. | На 1 мес. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Расеі | 15р.—к. | 11р.50к. | 8р.—к. | 5р.20к. | 3р.90к. | 2р.60к | 1р.30к. |
| За граніцу | 20р.—к. | 18р.—к. | 12р.—к. | 8р.70к. | 6р.—к. | 4р.—к. | 3р.—к. |

Калі выпісваяцца разам некулькі №№, та робіцца уступка на 20%.

Перамена адрыса каштуя 40 кап.

Масква, 1918 г. 6 Апрэля. Выходзіць ня меньш чатырох разоу у месяц. І-й год выданьня.


## АДЧЫНЕНА ПЕРЭДПЛАТА

на усе тэрміны году 1918 на едзіную у Расеі штотыдніовную беларускую газэту

## „ДЗЯННІЦА"

**Вестка Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.**

Радакцыя і адміністрацыя знайходзяцца: **Масква, Паварская, 52.**

Радактары: **Д. Жылуновіч і І. Петровіч.**

Выдавец: **Беларускі Нацыянал Камісарыят.**

Перэдплата прымаяцца і у Пецярбурзі: **Баскау, 22, кв. 16. Атдзел Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту:** і Пецяргоуская шаша, д. 80, кв. 71, кватэра **Беларускай Сацыялістычнай-Дэмакрацкай Работнічай Партыі.**

## Ад Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

У Петроградзі астауся атдзел Бел. Нац. Камісарыяту са сталамі: бежэнскім, статистичным і культурна-асьветным. Камісарам назначан гэтаго атдзелу тав. І. ЛАГУНЪ.

**Адрес атдзелу: Петроград, 22, кв, 16.**

## Юридическій Отдѣлъ Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата,

имѣя въ виду кодифицировать всѣ матеріалы по обычному праву Бѣлоруссіи, обращается ко всѣмъ организаціямъ и учрежденіямъ, а также и къ частнымъ лицамъ съ просьбой представить таковые матеріалы въ постоянное, либо временное, распоряженіе Отдѣла.

Расходы, связанные съ пересылкой и доставкой, могутъ быть возмѣщены.

**Юридическій Отдѣлъ Бѣлор. Націон. Ком.**

(Москва, Поварская, 52.)

## ОТЪ ЮРИДИЧЕСКАГО ОТДѢЛА БѢЛОРУССКАГО НАЦІОНАЛЬНАГО КОМИССАРІАТА.

**При Юридическомъ Отдѣлѣ** Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата бѣлорусскому населенію **даются справки** по всѣмъ **вопросамъ юридическаго характера.** Консультація **отъ 12 до 2 час. дня ежедневно,** кромѣ дней неприсутственныхъ.

*Юридическій Отдѣлъ Б. Н. К.*

## Юридическій Отдѣлъ Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата,

въ цѣляхъ наиболѣе точной регистраціи, предлагаетъ всѣмъ БѢЛОРУССКИМЪ ОРГАНИЗАЦІЯМЪ культурно-просвѣтительнаго, научнаго, политическаго и т. п. характера заявить письменно о своемъ существованіи, приложивъ при этомъ свой уставъ, либо краткое описаніе своей дѣятельности.

Всѣ свѣдѣнія подобнаго рода направлять по адресу Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата: Москва, Поварская ул., д. 52, телефонъ 185-51.

Юридическій Отдѣлъ Бѣлорусскаго Націон. Комиссаріата.

## Павядамленьне ад Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

**У горадзі Вітэбску адчыніуся атдзел Камісарыяту. Камісарам гэтаго атдзелу назначаны с. Марціноускі А. И. Камісарыят знайходіцца пры губэрскім акцызнум прауленьній. Па усім Беларускім мейсцовым справам радзім звертацца туды.**

## АД РЭДАКЦЫІ.

**У Петраградзі «Дзянніца»—Вестка Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту прадаецца вось у якіх мейсцах: Атдзел Каміссарыяту па справам Беларусау (Баскау, 22, кв. 16); Нарауская арганізацыя Беларускай Сацыял-Дэмакрацкай Работнічай Партыі (Пецяргохская шаша, д. 80, кв. 71); «Украинскі Базар», Пец. Бок, Вялікі прашп., д. 3); Неускі у газотчыка при касцелу св. Катарынэ; Базылеу Вострау, рох Вялікаго і 10 ліні.**

## З,езд Саветау Заходнага краю.

*(Тэляграма з Смаленску ад прэзідіума Краявога Выпауняючаго Камітэту Саветау заходнаго краю).*

**Выпауняючы Камітэт Заходнага краю склікае на 10 апреля 1918 л. другі З,езд Саветау Заходнага краю, на якім павінны злучыцца прэдстаунікі: Магілеушчыны, Вітэбшчыны, Міншчыны і Смаленшчыны.**

**Пытаньня з,езду вось якія:**

**1. Бягучы час.**

**2. Павядамленьне аб працы Краявого Выпауняючага Камітэту.**

**3. Павядамленьне прэдстауніка Савета Народных Камісарау.**

**4. Аб пашырэньні краю.**

**5. Арганізацыя чырвонае арміі.**

**6. Выбары і бягучыя справы.**

**Усе Саветы павінны прыслаць дэлегатау па вось якому ліку: адзін дэлегат на 5.000 чалавек; нявялікія Саветы злучаюцца дзеля пасылкі дэлегата; Саветы, якія маюць за сабою менш 5.000 чалавек, могуць паслаць аднаго дэлегата з дарадчым голасам.**

**Дэлегаты павінны прыехаць ня пазней 9 апрэля угор. Смаленск. Усе дэлегаты павінны мець пры сабе залежашчыя засвятчэньня ад. Саветау.**

## Варункі перэдплаты.

| | |
|---|---|
| На год . . . . . | 15 р. — |
| „ паугода. . . . | 8 р. — |
| „ тры месяцы . . | 3 р. 90 к. |
| „ адзін месяц . . | 1 р. 30 к. |
| За граніцу на год . | 20 р. — |
| Перамена адрысу . . | — 40 к. |

Рукапісы, якія прысылаюцца ля друку, павінны быць чытэльна напісаны на одным боку паперы.

Няпрынятыя рукапісы звертаюцца аутарам, калі ля перасылкі будзя прыслана марка. Малыя рукапісы ня варочаюцца зусім

Радактар прымая од 11 да 5 гад.

Радакцыя і адміністрацыя: Масква, Паварская, 52, тял. 1-85-51.

Прадаюцца камплекты «Дзянніцы» на прыгожуй паперы. Цана двайная. Лік камплектау зусім малы.

У «Дзянніцы» прымаюцца ля друку абвестки па восьякой цане: на першуй страніцы,

| | |
|---|---|
| за радок. . . . . . . | 1 р. 50 к. |
| на 4 страницы . . . . | — 85 к. |
| Шуканьня працы два радкі на 4 страніцы. . . . | — 40 к |

## З Смаленску перадаюць па тэлеграфу ад 2 апрэля:

**Пэчалася і ідзе сваім парадкам узбудоуля парушаных нямецкім наступам Саветау Работнічых і Салдацкіх Дэпутатау. Усе паветавыя Саветы Магілеушчыны і Вітэбшчыны ізноу гаруду́юць. Сягоднячы адчыніуся губэрскі з,езд у Мсціслаулі, на якім будзя абрахоувацца пытаньне аб узбудоулі Магілеускаго губэрскаго Выпауняючаго Камітэту.**

## Масква, 6 Апрэля.

Там, на Заходнюм хронці, пошля доугаго спакою узгарэлася, ізноу страшэнная бойня. Ізноу кінуты на рэзню з аднаго і другога боку соткі тысячау і мільёны працоунаго народу, ня пасьпеушаго ачухацца ад таго дурману, якім яны апояны буржуазеяй. Грымяць вагромністыя гарматы, тысячамі губяцца людзі за німа нішто, с пакораю ідучыя адны на другіх за інтэрасы буржуазеі, грашаунікоу і розных паноу.

Барацьба кіпіць. І вясёлая сьвята спрауляецца пад гэту бойню з далеку ад хронту. Апояная цемраю працоунаго народу, буржуазея пануя на славу.

Але мусь не надауга яе сьвята. С кожным грукатам гармат болій і болій рушыцца той хундамэнт, на якім збудавана іх панства. І чымсь гатрэй развернецца вайна-тым шырэй і глыбей буд-

